Тэлепраграма з 11 па 17 верасня

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 71 (4220)

8 верасня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Паводле інфармацыі Нацбанка, золатавалютныя рэзервы Беларусі наблізіліся да 7 мільярдаў долараў. Толькі за жнівень яны павялічыліся на 328,8 мільёна долараў. На 1 студзеня 2017 года золатавалютныя рэзервы краіны складалі 4,927 мільярда долараў.**

## З днём нараджэння, Мінск!

*Тры дні беларуская сталіца будзе адзначаць свой дзень нараджэння. Мінску спаўняецца 950 гадоў. З гэтай нагоды ў горадзе пройдуць урачыстыя і святочныя мерапрыемствы. “Народная Воля” выбрала для вас самыя цікавыя.*

Працяг тэмы чытайце на 4-й стар.




СКАЗАНА!

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## «На што грошы трацім?»

Учора кіраўнік Беларусі, прэзідэнт НАК Аляксандр Лукашэнка на пашыраным пасяджэнні Выканкама НАК па пытанні правядзення II Еўрапейскіх гульняў жорстка раскрытыкаваў выступленні беларускіх спартсменаў на розных міжнародных стартах у апошні час.

Закранаючы матчы беларускай футбольнай каманды, ён звярнуў увагу, што ў адборачным турніры чэмпіянату свету яна саступіла нават зборнай Люксембурга – 0:1.

*“Гэта хутчэй бы забыць”*, – з сумам зазначыў Аляксандр Лукашэнка.

Незадаволены кіраўнік дзяржавы і выступленнем хакейнага клуба «Дынама-Мінск», які ў чэмпіянаце КХЛ дапусціў серыю крыўдных пройгрышаў (шэсць параз запар і адна перамога): *“Не радуйцеся, што з'ездзілі ў Сочы і выйгралі”* (пазаўчора «Дынама» перамагло ХК “Сочы” з лікам 4:2). *Гэта сведчыць аб тым, што гуляць умееце, але не гуляеце. Сорамна глядзець, як катаюцца на каньках”.*

Кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу, што не паказалі годных вынікаў і нацыянальныя каманды на мінулых чэмпіянатах свету па лёгкай атлетыцы, мастацкай гімнастыцы і дзюдо.

«На што грошы трацім?» – задаў рытарычнае пытанне А.Лукашэнка.

*“У вас ёсць час для таго, каб перабудавацца, памяняць трэнераў, калі трэба. Калі хочаце нешта заваяваць у спорце, трэба быць на галаву вышэй за іншых. Усе павінны быць безумоўнымі лідарамі. Спаганнне з кіраўнікоў федэрацый будзе жэстачайшым. Прыходзьце па грошы, калі будзе перспектыўны спартсмен і трэнер. Пад гэта грошы мы будзем выдзяляць, а потым патрабаваць ад іх за вынік. І спыніце спасылацца на нейкія перабудовы, змену пакаленняў”*, – запатрабаваў кіраўнік дзяржавы.

ЗВАРОТ

## Просьба да спецдакладчыка ААН умяшацца ў сітуацыю ціску на адвакатаў у Беларусі

Беларускія праваабаронцы на чале з Алесем Бяляцкім звярнуліся да Спецыяльнага дакладчыка ААН **Монікі Пінта** ў сувязі з пазачарговай атэстацыяй шэрагу адвакатаў. Ёсць верагоднасць таго, што гэта пацягне за сабой пазбаўленне іх ліцэнзій.

Праваабаронцам вядома, што атэстацыя закране 25 прадстаўнікоў прафесіі: 23 у Мінску і двух у Магілёве. Акрамя таго, каля 60 адвакатаў чакае чарговая пераатэстацыя, якая праводзіцца раз на пяць гадоў. З іх восем чалавек будуць праходзіць пераатэстацыю ў Кваліфікацыйнай камісіі па пытаннях адвакацкай дзейнасці Міністэрства юстыцыі, а не ў тэрытарыяльных калегіях адвакатаў.

У звароце да спецдакладчыка ААН гаворыцца пра практыку, што склалася ў Беларусі, калі праверкі ў дачыненні да адвакатаў часта звязаны з хвалямі рэпрэсій у краіне: дастаткова ўзгадаць 2011 год, калі Міністэрства юстыцыі пасля выбараў прэзідэнта праводзіла кампанію ціску на адвакатаў, пазбаўшы ліцэнзій шэраг абаронцаў экс-кандыдатаў у прэзідэнты і ўдзельнікаў мінскай акцыі пратэсту супраць вынікаў выбараў. Тады таксама праводзілася пазачарговая пераатэстацыя адвакатаў, для чаго і былі створаны тэрытарыяльныя атэстацыйныя камісіі, склад якіх не вытрымліваў крытыкі. У тым жа годзе з ініцыятывы Міністэрства юстыцыі былі прыняты і новыя правілы адвакацкай этыкі, што сур'ёзна абмяжоўвала правы адвакатаў і іх падабаронных.

*«Таму, агледаючыся назад, і сёння не варта выключаць, што пераатэстацыя адвакатаў можа быць звязана з рэзананснай палітычна матываванай крымінальнай справай “аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў” і іншымі справамі палітычных і грамадзянскіх актывістаў: у спісы на пераатэстацыю патрапілі і некалькі абаронцаў такіх асоб»*, – паведамляюць спадарыні **Моніцы Пінта** праваабаронцы.

Адзначаючы таксама, што заканадаўства аб адвакатуры Беларусі замацоўвае права Мінюста прама ўмешвацца ў дзейнасць адвакатуры і кожнага адваката, праваабаронцы падкрэсліваюць абумоўленую існуючым законам і практыкай беспапаможнасць і безабароннасць прафесійнай карпарацыі перад уладамі і просяць спецдакладчыка ААН у тэрміновым парадку заклікаць улады Беларусі ўстрымацца ад умяшальніцтва ў дзейнасць адвакацкіх калегій, а таксама ўстрымацца ад ціску і рэпрэсій у дачыненні да асобных адвакатаў.

ПАМЯЦЬ



## Учора ён адзначыў бы сваё 60-годдзе

7 верасня вядомаму палітыку, дэпутату Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў, былому віцэ-прэм'еру, экс-старшыні ЦВК Віктару Ганчару споўнілася б 60 гадоў. 16 верасня 1999 года ён быў гвалтоўна выкрадзены разам з сябрам, бізнесменам Анатолем Красоўскім.

Кропка ў справе знікнення Ганчара і Красоўскага не пастаўлена дагэтуль.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Сілавікам – на 20 працэнтаў, бюджэтнікам – на 6,5?

*З 1 верасня ў Беларусі павышаюцца зарплаты*

Але калі аб павышэнні акладаў бюджэтнікам паведамляецца афіцыйна, то інфармацыя, якая тычыцца грашовага забеспячэння работнікаў усіх сілавых структур краіны – вялікая таямніца.

### «Уся прыбаўка – 20 рублёў»

У ліпені сярэдні заробак работнікаў у Беларусі склаў 827,5 рубля. У бюджэтнай сферы "палучкі" былі яшчэ ніжэйшыя – сярэдняя налічаная склала ўсяго толькі 611,4 рубля.

Тым не менш у бліжэйшы час сітуацыя з зарплатамі бюджэтнікаў палепшыцца няначна. З 1 верасня на 6,5 працэнта вырасце стаўка першага разраду. Ад яе залежыць памер акладу бюджэтнікаў. Але пры гэтым, як паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, памеры карэкціруючых каэфіцыентаў і штомесячных дыферэнцыраваных даплат не змяняюцца.

*«Гэта значыць, што чым вышэй у работніка тарыфны разрад, тым больш падвысіцца яго аклад*, – патлумачылі нам у бухгалтэрыі адной сталічнай клінікі. – *Напрыклад, калі ў доктара, загадчыка аддзялення 20-ы разрад, значыць, яго аклад вырасце прыблізна на 10–12 працэнтаў. Але аклады ўрачоў невялікія – плюс-мінус 200 рублёў. Значыць у верасні аклад такога доктара складзе 220 рублёў. Такім чынам, уся прыбаўка – 20 рублёў. Таму што астатнія даплаты – за стаж, кваліфікацыю і г.д. застануцца ранейшымі».*

У ліпені, між іншым, урачы атрымалі «бруднымі» ў сярэднім 1050,5 рубля зарплаты, медсёстры – 651,5 рубля. Сярэдняя выніковая сума ў разліковых лістках настаўнікаў склала 649 рублёў, у прафесараў і выкладчыкаў ВНУ – 898,5 рубля. Сярэдні заробак супрацоўнікаў органаў сацзабеспячэння не дацягнуў да 450 рублёў, а сярэдняя налічаная зарплата ў дашкольных установах склала ўсяго толькі 445,4 рубля. Работнікі музеяў, бібліятэк у сярэднім зараблялі ў ліпені каля 400 рублёў.

### «Нашым супрацоўнікам два гады не павышалі зарплаты»

Звесткі пра заробкі грамадзянскіх асоб Нацстат публікуе штомесяц, а вось дадзеныя пра сярэднія зарплаты ваенных або супрацоўнікаў міліцыі, КДБ у нашай краіне чамусьці не афішыруюцца. І колькі сёння зарабляюць людзі ў пагонах, даведацца афіцыйна немагчыма.

Паводле неафіцыйных дадзеных, падпалкоўнік міліцыі з 20-гадовай выслугай і ўсімі даплатамі і прэміямі мае ў сярэднім 1000–1200 рублёў у месяц, участковы ў званні капітана – 700.

У Міністэрстве ўнутраных спраў нам удакладнілі: так, зарплаты ў верасні павысяцца.

– *Наколькі – пакуль гаварыць рана*, – сказаў наш суразмоўца, які пажадаў застацца невядомым. – *Атрымаем разліковыя лісткі ў кастрычніку і параўнаем. Але хацелася б нагадаць, што два апошнія гады заробкі ў нас не павышаліся.*

У Міністэрстве абароны ад каментарыяў устрымліваюцца. Хаця ў жніўні падчас "Прамой лініі" міністр абароны **Андрэй Раўкоў** гаварыў пра тое, што ў бягучым годзе плануецца павышэнне памераў грашовага забеспячэння вайскоўцаў. Але зноў-такі – наколькі вырастуць заробкі, агучана не было.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАТА

## Сёння, 8 верасня, – Дзень беларускай вайсковай славы

***На дзяржаўным узроўні такая памятная дата не адзначаецца. Але ў народзе 8 верасня даўно лічыцца Днём беларускай вайсковай славы. І не выпадкова. У гэты дзень у 1514 годзе адбылася Аршанская бітва, у якой войска Вялікага Княства перамагло ўтрая большую па колькасці армію Маскоўскай дзяржавы. 30-тысячнае войска ВКЛ пад камандаваннем гетмана Канстанціна Астрожскага атрымала перамогу над 80-тысячным маскоўскім войскам. У гэтай бітве гетман Астрожскі ўпершыню ў вайсковай гісторыі выкарыстаў артылерыйскі залп з засады па варожых войсках.***



Аршанская бітва мела вялікі ўплыў на ход гістарычных падзей ва Усходняй Еўропе. Перамога пад Оршай уратавала незалежнасць Беларуска-Літоўскага гаспадарства і таму займае пачэснае месца ў нашай гісторыі. Дзень 8 верасня стаў Днём беларускай вайсковай славы. Штогод патрыятычная грамадскасць Беларусі адзначае яго як адно з галоўных нацыянальных святаў.

«Доўгі час пра дзень сваёй вайсковай славы беларусы не ведалі. У савецкі час у афіцыйных падручніках нічога пра Аршанскую бітву не пісалі, як і ўвогуле пра захопніцкую палітыку Расіі ў дачыненні да Беларусі, – *адзначаў у адным са сваіх артыкулаў доктар гістарычных навук* **Анатоль Грыцкевіч**. – Яна не ўпісвалася ні ў афіцыйную гісторыю Расійскай імперыі, ні ў афіцыйную гісторыю СССР як нашчадка Расійскай імперыі.

Толькі пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі дзень 8 верасня пачаў святкавацца беларускімі патрыётамі як Дзень беларускай вайсковай славы.

Менавіта 8 верасня 1992 г. на Плошчы Незалежнасці ў Мінску беларусы-афіцэры прымалі вайсковую прысягу на вернасць Беларусі. У прыняцці прысягі бралі ўдзел афіцэры ў адстаўцы і палітычныя дзеячы Беларускага Народнага Фронту.

Бітва пад Оршай вывучалася ў вайсковых вучылішчах дарэвалюцыйнай Расіі. Як узор баявога майстэрства беларускіх рыцараў, прыклад вайсковага таленту К.Астрожскага і вельмі ўдалай аперацыі яна прыведзена ў Расійскай ваеннай энцыклапедыі (1914 г.).

Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. з'яўляецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі. Яна ўпісваецца ў агульны шэраг геройчных перамог войска Беларуска-Літоўскай дзяржавы на працягу некалькіх стагоддзяў падчас існавання нашай самастойнай дзяржавы, калі беларускае войска адстойвала незалежнасць нашай краіны. Дата 8 верасня таму і з'яўляецца Днём беларускай вайсковай славы".

ТЫМ ЧАСАМ

## Дазвол ёсць!

Кансерватыўна-Хрысціянская партыя – БНФ атрымала ад Мінгарвыканкама дазвол на святкаванне Дня беларускай вайсковай славы 8 верасня з 18.00 да 20.30.

Мітынг адбудзецца ў Кіеўскім скверы, на пляцоўцы побач з кінатэатрам "Кіеў", перасячэнне вуліцы Кахоўскай і бульвара Шаўчэнкі.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Авяр'янаву перадалі «прывітанне»

Следчы камітэт прыняў да вытворчасці крымінальную справу, распачатую Дэпартаментам фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю ў дачыненні да бізнесмена **Юрыя Авяр'янава**, а таксама шэрагу кіраўнікоў камерцыйных структур.



Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта **Юлія Ганчарова**, справа расследуецца ў сувязі з ухіленнем ад выплаты падаткаў суб'ектамі гаспадарання. Па падазрэнні ў здзяйсненні супрацьпраўных дзеянняў заключаны пад варту шэсць чалавек, у тым ліку дырэктары ЗАТ «Гандлёвы свет – «Кальцо» і ТАА «Парк забаў Дрымлэнд», кіраўнік «Madison Royal Club» і іншыя.

Тым часам сам Авяр'янаў знаходзіцца за мяжой.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Яшчэ адзін «пагарэў»?

У Мінску пры атрыманні хабару затрыманы старшыня футбольнага клуба "Слуцк" Алег Караneўскі.

Начальнік упраўлення інфармацыі МУС Беларусі **Канстанцін Шалькевіч** пацвердзіў гэтую інфармацыю. Стала вядома, што затрыманне праводзілі супрацоўнікі АБЭЗ УУС Мінаблвыканкама.

Зараз "Слуцк" займае ў чэмпіянаце Беларусі ганаровае 5-е месца, а Каранеўскі быў адным з заснавальнікаў клуба.

Нагадаем, што не так даўно за атрыманне хабару быў асуджаны на 5 год пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці экс-дырэктар дэпартамента суддзейства і інспектавання Беларускай фэдэрацыі футбола **Андрэй Жукаў**.

**Віктар ШПАК.**

ПЛАНЫ

## Стадыён «Дынама» пачне працаваць ужо ў гэтым годзе?

Тэрміны заканчэння рэканструкцыі пастаянна пераносяцца.

Як вядома, раней планавалася, што рэканструкцыя сталічнага стадыёна закончыцца да канца 2017 года, аднак днямі старшыня Мінгарвыканкама **Андрэй Шорац** заявіў, што тэрміны здачы аб'екта перанеслі на лета 2018 года.

Тым часам учора на пасяджэнні выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта беларускі кіраўнік з гэтай нагоды выказаўся так: *"Якія праблемы, напрыклад, замінаюць увесці ў эксплуатацыю мінскі стадыён "Дынама" ў 2017 годзе, як гэта прадугледжана адпаведным рашэннем прэзідэнта?.. Ніякіх прапаноў на маё імя пра перанос тэрмінаў быць не можа. Усё, як вырашылі, павінна быць зроблена ў тэрмін".*

Народная Воля http://www.nv-online.info 8 ВЕРАСНЯ 2017 г.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Превышение полномочий

Осудили бывшего директора Зельвенского ЖКХ. Осудили строго – на шесть лет колонии усиленного режима. За превышение полномочий: «коммунальщиков начальник и метелок командир» распорядился, оказывается, закупить пять насосных установок по цене, в 2,5 раза превышающей фактическую стоимость, – более 103 тысяч рублей вместо 39 тысяч.

Понятно: скорее всего, «это «ж-ж-ж» – неспроста», как говорил Винни-Пух. Не может руководитель районного уровня не знать истинных расценок на рынке: иначе как его назначали, если он и в ценах не ориентируется, и интернетом пользоваться не умеет? Кто-то ведь выдвигал, кто-то проверял, кто-то согласовывал. Эти люди остались на свободе и при должностях, а он угодил за решетку. Бес, как говорится, его попутал. Мелкий бес, районно-коммунального уровня.

Но сколько таких бесов еще путают чиновников и какого уровня – мы не знаем. Мы, народ Республики Беларусь, который, согласно Конституции суверенного государства, является единственным источником власти. Мы узнаем лишь в том случае, когда чиновника посадили. В данном случае – за ущерб, который очевиден. Исходя из сегодняшнего курса – около 32 тысяч долларов. Сколько из них кто и кому дал в «откат» – к делу не относится. Как говорят знающие люди из компетентных органов, до 20 процентов суммы прибыли на «откат» и уходит. Это означает около шести с половиной тысяч долларов.

По тысяче долларов с «хвостиком» за год свободы еще не старого человека. Не густо, должен сказать. Игра явно не стоит свеч.

Но вот мы переходим на другой уровень – более высокий. Где полномочий значительно больше, а контроля, нужно полагать, все-таки меньше – ибо главная функция чиновника высокого уровня в нашем государстве и есть контроль. В том числе за нижестоящими чиновниками. Бесов-искусителей там просто тьма-тьмущая бродит. Один предлагает построить здание в охраняемой зоне (водоохранной или исторической – в данном случае уточнять не будем). Другой намекает, что хорошо бы под инвестиции выделить целый квартал посреди большого города, ради чего и жителей можно выселить в тьмутаракань. Третий убежден, что нужно любой ценой профинансировать за государственный счет реконструкцию целого ряда предприятий. Четвертый приходит с проектом нормативного акта и бьется об заклад, что в случае подписания документа, дающего преференции его отрасли, осчастливлен будет весь белорусский народ.

Ну – и? И вы верите в то, что чиновники визируют все эти документы абсолютно бескорыстно? Они распоряжаются государственной собственностью с такой легкостью, с какой собственностью своей семьи никогда бы не распоряжались. Ибо кто согласится дать разрешение строить гостиницу в собственном огороде? А посреди городского парка – за милую душу! Кто посоветует своим родителям «жить по средствам», понимая при этом, что у них денег на лекарства не хватит? А у нас высшие должностные лица именно такие советы и дают. Им чего? Им как раз всего хватает. А излишки – вроде особняка в «Дроздах», который нечем оплачивать после отставки, – можно и на продажу выставить по вполне рыночной цене.

Нужно понять: превышение полномочий – это вовсе не только закупка оборудования по заведомо завышенной цене. Это мышление по принципу: «чиновник – это и есть власть», «чиновник – это и есть государство». Помню обошедшие интернет кадры, на которых один из сменявших друг друга, как перчатки, губернаторов Минской области по-барски ведет себя с гражданами, пришедшими к нему на прием. Мол, кто вы все такие? Кто вас уполномочил? Или, например, недавнее заявление председателя столичного горисполкома: на обсуждения застройки приходят одни и те же специально обученные люди – подумать только! При этом господин «якобы мэр» (ибо какой он мэр, если его не избирали, а назначили?) на самом деле возмущен тем, что эти люди сами знают свои права и объясняют их тем, кто их знает плохо, а потому не умеет ими пользоваться. Люди, знакомые с законодательством, оказывается, мешают.

Вы можете представить, чтобы так вел себя государственный служащий в Литве, Швеции, Германии? Я не могу. Это не означает, что там нет проблем: не было бы проблем – бывший канцлер не шел бы на службу в иностранную государственную корпорацию. Но в том, что столь хамского отношения к своим нанимателям (а именно избиратели являются нанимателями всех чиновников), к их проблемам там нет, я не сомневаюсь.

И в том, что так будет продолжаться до тех пор, пока и мэров, и губернаторов не будут избирать жители соответствующих городов и регионов, я тоже не сомневаюсь. Вот только выборы должны быть честными и прозрачными.

ПОЗИЦИЯ

Олег КРАВЧЕНКО,
заместитель министра иностранных дел:

## «Блоковое мышление должно уйти в прошлое…»

– Наше союзничество с Россией не означает, что мы не хотим улучшать отношения с ЕС и США, – заявил замминистра иностранных дел Олег Кравченко, выступая на 10-й конференции «Минский диалог», посвященной будущему «Восточного партнерства». – И у этого есть много прагматичных причин, но не в ущерб тесным стратегическим отношениям с Россией. Прогресс на этом пути не означает, что мы пытаемся как-то предать Россию, перейти в другой блок. Это блоковое мышление должно уйти в прошлое.

Дипломат считает, что Евросоюзу и ЕАЭС нужно начинать прямой диалог, чтобы в итоге прийти к «общему экономическому пространству от Лиссабона до Владивостока», что снизит конфликтный потенциал в регионе.

ПРЫВІТАННЕ ЗЕМЛЯКА

Ігар Шклярэўскі (злева) і Рыгор Барадулін. 1970-я гг.

**Ад рэдакцыі**

Знакаміты паэт Ігар Шклярэўскі ўжо больш за паўстагоддзя жыве ў Маскве, не забываючы пра сваю родную Беларусь, Магілёўшчыну, Бялынічы, дзе ў 1938 годзе з'явіўся на свет. Ён пераклаў і выдаў цэлую анталогію беларускай паэзіі "Паром из Беларуси в Россию", даследаваў беларускія карані "Слова пра паход Ігара". На атрыманую ў 1987 годзе Дзяржаўную прэмію СССР пасадзіў лес на беразе Прыпяці і сабраў сярод сваіх чытачоў сродкі на перасяленне з чарнобыльскай зоны дзвюх вёсак. На жаль, апошнім часам паэт рэдка бывае ў Беларусі, якой прысвечаны дзясяткі ягоных твораў. Гэтае прызнанне ў любові Мінску мы атрымалі ад Ігара Іванавіча якраз напярэдадні 950-годдзя беларускай сталіцы.

Игорь ШКЛЯРЕВСКИЙ

# Ода городу Минску

Архитектура – тайная причина счастья, осуществления надежд. Об этом я подумал в Минске, перед мостом над Свислочью.

Между домами – синие просветы, куда ни посмотри – синеет небо. Взгляд пешехода на проспекте *Незалежнасці* не упирается в сплошную стену зданий, идешь и видишь дальше, чем идешь, в стесненных городах архитектура «тупиков» воздействует на пешехода, усугубляя его неудачи.

Минск – город, полный воздуха, квадратов синевы, просветов, *даляглядаў* – выход есть, и ты его найдешь…

Перспектива улиц переходит в перспективу личных планов и надежд.

И это – Минск!

Оперный театр на холме напоминает римский Капитолий, квадраты синевы усиливают сходство с Древним Римом. Умышленно уронишь спичку, отойдешь на десять метров – белеет спичка.

Один из самых чистых городов Европы, независимый и некичливый (особенности белорусского характера), – *заходзьце, калі ласка*!

Не презирающий чужих акцентов и привычек, гостеприимный Минск приветит и недорого накормит *дранікамі* со сметаной, голодных в Минске нет и побирушек нет, но память есть – с просветом после каждого второго…

*Там, у людей моей земли*
*на пепелищах, на курганах*
*плач переняли журавли,*
*чтоб слышали в далеких странах.*

Некичливая память и слава Минска, Бреста, Могилева… Красивых и на диво чистых городов – от мала до велика.

Ну вот, теперь куда деваться – я еду в Минск! И обниму стареющего брата Олега с хохолком на темени, ну точно как у чибисов, летающих над плёсами Днепра и Сожа, над болотами Припяти, слава Богу, не все осушили. Необъяснимым образом их влажность воздействует на душу, на характер.

Ночью вас под дождем не оставят – в любом селе, в любом райцентре.

*– Заходзьце, калі ласка.*

*(Из будущей книги «Ожерелье сушеных грибов»)*

ЗАКУЛІССЕ

# Ці паспрабуе Алег Румо стаць членам-карэспандэнтам Акадэміі навук?

16 лістапада ў Нацыянальнай акадэміі навук пройдуць выбары акадэмікаў і членкораў. Для навуковага асяроддзя гэта падзея. Па-першае, быць акадэмікам і членкорам даволі прэстыжна і сёння, нягледзячы на складаную сітуацыю з навукай у краіне. А па-другое, згодна з указам А.Лукашэнкі, у Нацыянальнай акадэміі навук не можа быць больш за 100 акадэмікаў і 145 членаў-карэспандэнтаў, таму выбары праводзяцца не кожны год і толькі на існуючыя вакансіі.

На мінулых выбарах, якія адбыліся восенню 2014 года, не абышлося без сенсацый. Па-першае, ні за адну з трох жанчын-вучоных, якія прэтэндавалі на званне акадэміка (дырэктара РНПЦ дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі **Вольгу Алейнікаву**, дырэктара Інстытута мікрабіялогіі НАН Беларусі **Эмілію Каламіец** і вядучага вучонага ў галіне харчовай прамысловасці **Зою Васіленка),** Агульны сход не прагаласаваў. Акрамя таго, яшчэ на першай стадыі галасавання камісіяй аддзялення медыцынскіх навук не была падтрымана кандыдатура вядомага не толькі ў медыцынскіх колах доктара – дырэктара РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак **Алега Румо**, які быў даверанай асобай А.Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах 2010-га і 2014 гадоў. Румо прэтэндаваў на атрыманне звання членакарэспандэнта НАНБ.

Ці паспрабуе ў гэтым годзе Алег Румо даказаць, што ён зрабіў у навуцы дастаткова, каб стаць членкорам? За мінулыя тры гады ў свой паслужны спіс ён дадаў яшчэ званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (у складзе калектыву) за распрацоўку і ўкараненне тэхналогій трансплантацыі органаў у дзяцей і дарослых.

Зараз у Акадэміі навук ідзе прыём дакументаў ад кандыдатаў на атрыманне званняў акадэміка і членкора, які працягнецца да 21 верасня. Практыка паказвае, што, як правіла, спіс прэтэндэнтаў фарміруецца ў апошнія тры дні да завяршэння падачы дакументаў. Але ў любым выпадку да гэтай даты ніякай інфармацыі адносна прэтэндэнтаў не паступае не толькі ў прэсу, але нават ў галіновыя аддзяленні Акадэміі. Захоўвае інтрыгу і сам Алег Румо.

*«Пакуль ідзе прыём дакументаў, пасля 21 верасня пра ўсё даведаецеся»,* – загадкава адказвае вучоны-медык на пытанне аб магчымым удзеле ў конкурсе на суісканне звання членкора і патэнцыяльных канкурэнтах. Справа ў тым, што тры гады таму на вакансію члена-карэспандэнта па спецыялізацыі "трансплантацыя органаў" Алег Румо быў адзіным прэтэндэнтам. Але, нават нягледзячы на гэта, высокага звання не атрымаў.

Што ж тычыцца механізму выбараў, то пасля таго, як вызначаны суіскальнікі на званне акадэмікаў і членкораў, пачынаецца першы этап галасавання – на камісіях у галіновых аддзяленнях Акадэміі навук. Прычым членаў камісіі выбірае Бюро аддзялення, і, як правіла, гэта ўсяго тры вучоныя-акадэмікі, якія галасуюць тайна.

Алё нават калі іх рашэнне станоўчае, суіскальнікам трэба прайсці другі этап – тайнае галасаванне на Агульным сходзе Акадэміі навук. Там прэтэндэнту трэба набраць 2/3 галасоў, каб атрымаць званне.

Дарэчы, у гэтым годзе Нацыянальная акадэмія можа папоўніцца 13 новымі акадэмікамі і 31 членкорам – менавіта столькі ёсць вакансій. Хоць гэта не значыць, што ўсе яны будуць заняты пасля Агульнага сходу. Усё залежыць ад таго, як прагаласуюць дзейсныя члены Акадэміі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

РЭГІЁН

# «Універсітэт Залатога веку» запрашае…

У Гродне да 15 верасня праводзіцца запіс на дзявяты набор праграмы для сталых людзей "Універсітэт Залатога веку". Толькі за першы дзень прыёму запісаліся 60 чалавек.

Пра паспяховы праект, які ажыццяўляецца аб'яднаннем "Цэнтр "Трэці сектар", распавёў Вітаўт Руднік, сябра праўлення арганізацыі.

**– Што такое "Універсітэт Залатога веку"?**

– Гэта ўнікальная праграма, першая такога кшталту ў Беларусі. Па нашым прыкладзе такія структуры пачалі пазней узнікаць у іншых гарадах. Сёння толькі ў нас навучаюцца больш за 200 чалавек кожны год.

**– З якога часу бярэ пачатак дадзеная праграма?**

– З красавіка 2010 года. Ужо восем выпускаў было.

**– Чым ва "Універсітэце Залатога веку" займаюцца сталыя людзі?**

– У дзявятым наборы будзе 40 клубаў і курсаў. Хтосьці вывучае камп'ютарныя асновы, хтосьці вучыцца плаціць праз інтэрнэт за камунальныя паслугі, хтосьці псіхалогію вывучае, хтосьці гісторыю. Вучацца маляваць, ёсць таксама тэатральная студыя пад кіраўніцтвам прафесійнага рэжысёра, якая штогод ажыццяўляе некалькі пастановак. Ёсць танцы, фізкультура, розныя віды рукадзелля, вывучэнне англійскай і іншых замежных моў на некалькіх узроўнях. Як бачыце, шмат розных накірункаў. Фактычна гэта зроблена па прыкладзе еўрапейскіх народных універсітэтаў. Толькі калі там яны арыентаваны ўвогуле на дарослых людзей любога ўзросту, то ў нас узрост 55+.

**– Хто больш ходзіць на курсы?**

– Я быў перакананы, што найбольш актыўнымі будуць былыя настаўнікі. Але, як высветлілася, педагогі на другім месцы. А на першым – інжынеры. Канешне, да нас людзі высокаадукаваныя прыходзяць: 90 працэнтаў – з вышэйшай адукацыяй, многія з іх працавалі на кіруючых пасадах. Гэта людзі, якія маюць патрэбу быць у калектыве, маюць жаданне развівацца.

**– Ці заўважаюць дзейнасць "Універсітэта" ўлады?**

– Нашы ўлады не надта ахвотна паказваюць эфект працы грамадскіх арганізацый, а тут былі дзве справаздачы, у якіх мы фігуравалі. Гэта сведчыць, што ўлады не могуць не заўважаць нашу працу на карысць грамадства.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

РЭГІЁН

# Аднаўляецца Малы Агінскі канал

Ініцыятарам работ выступіла грамадскае аб'яднанне "СлонімКаналАгінскага", створанае Іванам Паўлавічам Вадэйкам, ветэранам працы, які ў 1983–1986 гадах з'яўляўся старшынёй Слонімскага гарсавета. Сярод 24 заснавальнікаў – былыя і цяперашнія кіраўнікі раёна, шэрагу прадпрыемстваў і навучальных устаноў горада. Як заўважае Іван Паўлавіч, *"людзі, якіх паважаюць і якіх могуць паслухаць"*.

Першай ініцыятывай, з якой выступіла арганізацыя, стала дабраўпарадкаванне слонімскага замчышча. Для пачатку камунальная служба прыбрала тэрыторыю, а побач з'явіўся памятны камень, выкананы адным з удзельнікаў арганізацыі – скульптарам **Леанідам Богданам.** *"У яго шмат планаў было: і што там размясціць, і як зрабіць,* – кажа Іван Паўлавіч. – *Напрыклад, на замчышчы ён прапаноўваў зрабіць пляцоўку для турыстаў, каб там былі макеты замка Агінскага, тэатра".* Але напрыканцы красавіка 2017 года здарылася трагедыя: 64-гадовы скульптар Леанід Богдан разам з жонкай быў забіты ва ўласнай хаце ўнукам.

Аднак Іван Паўлавіч не адмовіўся ад ажыццяўлення ідэі аднаўлення канала, звязанага з імем слыннага гетмана Вялікага Княства Літоўскага – Міхала Казіміра Агінскага. З яго імем звязаны і найбольш яскравы час у гісторыі Слоніма. Іван Паўлавіч Вадэйка асабіста прайшоўся па прадпрыемствах горада, і тыя адгукнуліся, у адрозненне ад аднаго з самых вядомых мясцовых бізнесменаў.

Сродкі пералічылі і некалькі слонімцаў з замежжа, як, напрыклад, былы кіраўнік мясцовага мясакамбіната **Міхаіл Абрамавіч Белкін** з Ізраіля, які адправіў 300 рублёў. Больш за паўтары тысячы рублёў сабралі супрацоўнікі слонімскага аддзялення Шчучынскага масласырзавода. А пасля таго, як 30 тысяч рублёў на рамонт пералічыў "Белтэлекам", адкрыўшы пры гэтым для грамадскага аб'яднання тэлефонную лінію для ахвяраванняў, вырашана было 1 верасня распачаць працы.

На сёння ўжо расчышчана ўзбярэжжа, якое плануецца ўмацаваць і засеяць травой. Запрасілі на месца і старшыню Слонімскага райвыканкама **Алега Таргонскага.** Зараз прынята рашэнне правесці 16 верасня раённы суботнік па зборы сродкаў. Тыя ж 32,5 тысячы, якія ўжо сабраны, пойдуць на 330 метраў асфальтавай дарожкі для пешаходаў і раварыстаў. Таксама плануецца зрабіць прыстань, купальню, акунальню, а на беразе запланавана алея, дзе маладыя сем'і будуць высаджваць саджанцы дрэў.

Малы Агінскі канал быў пабудаваны ў 1771 годзе. Яго адметнасцю быў "плаваючы тэатр". Зрабіць ахвяраванне ў памеры 3 рублёў на аднаўленне Малога Агінскага канала ў Слоніме можна, патэлефанаваўшы на нумар (8-902) 214-44-44 з хатняга тэлефона.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**



Народная Воля http://www.nv-online.info 8 ВЕРАСНЯ 2017 г.

ПАЛІТКУХНЯ

# У рэгістрацыі адмоўлена!

*Мінюст ізноў не зарэгістраваў жаночую арганізацыю ГА "Гендарнае партнёрства". Як паведамляла раней «Народная Воля», гэта не першая спроба зарэгістраваць арганізацыю.*

*"Пасля першай адмовы ў рэгістрацыі прадстаўнік Мінюста ў гутарцы са мной запэўніваў, што, калі мы ўнясём некаторыя змены ў статут, наша арганізацыя будзе зарэгістравана,* – распавядае намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі, старшыня стваранай арганізацыі юрыст **Антаніна Кавалёва**. – *Мы так і зрабілі – прыбралі тое, што выклікала пытанні ў чыноўнікаў, і больш нічога не змянялі. Але знайшліся новыя прэтэнзіі...*

*Я не сцвярджаю, што нашы дакументы абсалютна бездакорныя і дасканалыя да апошняй коскі, нейкія дробныя нюансы ёсць. Але пры наяўнасці палітычнай волі і жадання супрацоўніцтва заўсёды можна абмеркаваць выяўленыя недахопы і, калі яны нязначныя, унесці папраўкі. Калі ж такой волі няма, то рэгістрацыі не будзе ніколі.*

*Відавочна, што гэта палітычнае рашэнне цяперашніх улад Беларусі. Пра гэтае рашэнне Аб'яднаная грамадзянская партыя дадаткова праінфармуе ПА АБСЕ і асабіста кожнага з дэпутатаў, якія бралі ўдзел ва ўстаноўчым сходзе ў якасці гасцей".*

Нагадаем, што арганізацыя «Гендарнае партнёрства» не збіралася здзяйсняць рэвалюцыю ў краіне і не ставіла перад сабой глабальных палітычных мэт. Сябры арганізацыі рабілі акцэнт перш за ўсё на сацыяльнай праблематыцы.

*«Мы планавалі садзейнічаць стварэнню ўмоў для таго, каб жанчыны і мужчыны на роўных правах удзельнічалі ў грамадскім і палітычным жыцці,* – кажа Антаніна Кавалёва. – *Няма закона аб роўных правах і роўных магчымасцях мужчын і жанчын, не прыняты закон аб супрацьдзеянні хатняму гвалту. Патрэбна і гендарная экспертыза законаў, якія прымаюцца, наспела неабходнасць падрыхтаваць і ўнесці змены ў Працоўны кодэкс. Не сакрэт, што сёння жанчыны атрымліваюць зарплату значна ніжэй, чым мужчыны, нават калі яны выконваюць адну і тую ж працу. Але, падобна, сёння для чыноўнікаў гэтыя пытанні не актуальныя...»*

Ці будзе Антаніна Кавалёва рабіць чарговую спробу зарэгістраваць арганізацыю?

*«Шчыра кажучы, сёння я не бачу ў гэтым сэнсу,* – сказала яна «Народнай Волі». – *Зноў ісці па судах – у першы раз гэта не прынесла ніякіх вынікаў, наша скарга цяпер знаходзіцца ў міжнародных структурах. Але гэта не канчатковае рашэнне, мы яшчэ будзем абмяркоўваць пытанне пра чарговую спробу рэгістрацыі..."*

**Марына КОКТЫШ.**

ЛІЧБЫ

Паводле інфармацыі Генпракуратуры Беларусі, за шэсць месяцаў 2017 года судамі разгледжана 20.605 крымінальных спраў, з іх дзяржаўнымі абвінаваўцамі падтрымана абвінавачанне па 17.895 справах (86,8%). Прыцягнуты да крымінальнай адказнасці 21.326 асоб, што некалькі менш, чым у аналагічным перыядзе мінулага года.

Адзначаецца зніжэнне колькасці асуджаных за асабліва цяжкія злачынствы на 13,5% і некаторы рост колькасці прыцягнутых да крымінальнай адказнасці за ўчыненне цяжкіх злачынстваў.

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# Командировка в… тюрьму

*(Продолжение. Начало в №70.)*

## Психолог за решеткой

Медицинская часть исправительной колонии №22 может поразить воображение не только тех, кто бывал в подобных учреждениях, но и посетителей районных поликлиник и провинциальных амбулаторий.

Как и большинство зданий (кроме котельной), появилась она уже после того, как отсюда ушли военные. И выглядит как снаружи, так и внутри просто замечательно. Но удивляют не только свежий ремонт, лаборатория, флюорографический кабинет и рентген-аппарат, но и пустующие просторные палаты (в стационаре 30 коек, при необходимости можно разместить 45).

*«Так контингент-то молодой. Вот и не болеют»,* – комментирует **Дмитрий Теслюк**, начальник медчасти ИК №22. Проводя «обзорную экскурсию», он четко и доходчиво поясняет, что, *«когда ее строили, брался за основу гражданский проект, в который были внесены (из-за специфики) доработки»*.

По словам медика, серьезные операции в колонии не проводятся: *«По медицинским гражданским протоколам все операции, проводящиеся под наркозом, выполняются на районном уровне. Здесь же – малая хирургия: зашить палец, обработать рану или травму, вскрыть фурункул»*.

При нас несколько заключенных ждали приема у стоматолога, один из них уже сидел в кресле. *«Этот специалист – гражданский. Он приезжает к нам по мере необходимости. Как и другие доктора»*, – поясняет Теслюк.

*«Тут специальная железная дверь – из-за хранения лекарств группы А»*, – доктор подводит нас к кабинету старшей медсестры. *«А что это?»* – интересуется юная барановичская журналистка. *«Зеленка, йод»*, – с серьезным лицом отвечает ей пожилой спецкор «Зари». Дружный смех разносится по гулкому коридору.

Но вовсе не смешно было увидеть кабинет психолога, разделенный на две части массивной решеткой. *«Доктор – женщина, ведет прием без надзора, наедине с пациентом. Ведь далеко не все заключенные могут говорить при посторонних. Для ее безопасности и установлена решетка»*, – поясняет начальник колонии.

## Кто меня научит?

Нападения на врачей, тем более женщин, – не новость для колоний. А вот дистанционное обучение – это веяние последних лет. И нельзя не похвалить МВД за это нововведение! Ведь очень важно, чтобы оказавшиеся за решеткой люди могли получить образование и профессию.

*«Мы активно развиваем новый вид образования – дистанционное*, – рассказывает начальник колонии подполковник Андрей Квашевич. – *Не скажу, что желающих много, ведь обучение платное – около 600 долларов за год. В прошлом году с Минским инновационным институтом был заключен договор, и около 20 осужденных получают образование дистанционным образом. Специальности такие: менеджмент – шесть человек, инновационный менеджмент – один, маркетинг – три, экономика и управление на предприятии – три, транспортная логистика – пять»*.

Но не только высшее образование можно получить в стенах колонии. На территории работает отделение Ивацевичского профессионального лицея сельскохозяйственного производства. По словам начальника ИК №22, заключенные могут получить три рабочие специальности – столяр-станочник, швея-портной и газоэлектросварщик: *«Три группы по 20 человек получают образование и работают в промзоне по этим специальностям»*.

К промзоне путь лежал мимо клуба, в котором удалось поговорить с Максимом, который получает уже третье высшее образование!

## «Награда за труды» – 14 лет

*«Из Минска, 23 года. Я «минер» – закладки делал вместе с братом. Денису 30. Нам обоим по 14 лет дали*, – рублеными фразами отвечает на мои вопросы бывший наркоделец. Но затем становится более разговорчивым: – *Нужны были деньги на операцию. Мне. И у брата жену укусил энцефалитный клещ, и стало отказывать тело. Нужны были деньги на лекарства. Дорогостоящие. Времени мало было, чтобы ее спасти. И мы решили заняться «закладками». Жена брата тогда лежала в инфекционке в Минске, ее спасли…»*

Интересуюсь: неужели другого варианта найти деньги не было? Взять взаймы, машину продать… *«Если на кону стоит жизнь человека, то приходится жертвовать собой!»* – не без пафоса отвечает Максим. Однако через некоторое время на вопрос *«Если бы можно было повернуть жизнь вспять, сделал бы то же?»* неожиданно поражает сменой мнения: *«Думаю, нашли бы другой выход. Взяли бы деньги в кредит, продали бы квартиру…»*

Из разговора выясняется, что для спасения жены брата необходимо было порядка 10 тысяч долларов. Как долго братья их «зарабатывали»? *«Пару месяцев. Закладка приносила два доллара где-то. Часть денег я потратил на операцию, мне удалили опухоль из груди, доброкачественную. Меня выписали, я лежал дома с неснятыми швами, и меня арестовали…»*

Эти факты дают понять, что кошмарный срок в 14 лет – не жестокость системы, а «награда за труды». Достойная, как бы жестоко это ни звучало.

По словам Максима, на поставщиков выходил третий подельник, ему тоже дали 14 лет. Самих поставщиков не взяли: *«Все было анонимно, по интернету. Никто никого не знал»*. Подельник, судя по всему, уже имел проблемы с законом ранее, потому как сидит в бобруйской колонии. Выйти на свободу ребята смогут не скоро даже при замене наказания более мягким.

В зоне у братьев соседние койки, парням легче переносить неволю вместе, а вот друзья моментально испарились: *«Только родители и остались. Раз в три месяца приезжают: пишем заявления одновременно, чтобы всем вместе быть. Девушка была, хотели расписаться. Но я сам решил прекратить все отношения. Не имею морального права ее держать»*.

По словам Максима, в неволе тяжело не физически, а морально. Может, потому, что он год на промзоне работал учетчиком, а с недавнего времени стал нарядчиком жилой зоны. *«Как кормят? Нормально: завтрак, обед, ужин. Тут вопрос о еде не стоит – пришел и поел»*, – пожимает плечами Максим. А вот то, что он получает уже третье высшее образование, вызывает изумление: не каждый и на свободе это осилит.

Правда, два образования значатся в его деле как «незаконченные»: *«Учился в двух институтах: в БНТУ на дневном, специальность «инженер по подъемно-транспортным машинам и механизмам», и в БГУ – на заочном – «внешнеэкономическая деятельность». В БГУ оставалось полгода, а в БНТУ – где-то 7 месяцев до выпуска»*, – поясняет «вечный студент». Сейчас он лишь в теории может возобновить и закончить обучение в БНТУ и БГУ. А пока решил получить третье образование дистанционно: «экономика и управление на предприятии». *«Учиться несложно, потому как это все на базе того, что я изучал раньше. Денис не учится, у него уже есть два высших образования. Он работал на «Кристалле», занимался внешнеэкономической деятельностью»*, – ответ Максима сражает наповал: неужели братья не нашли иного способа заработать 10 тысяч долларов, кроме как торговать наркотиками?!

## От 15 рублей

По пути на промзону завели беседу с Андреем Квашевичем. Вспоминаю о том, что в интервью нашей газете заместитель министра внутренних дел генерал-майор **Сергей Дорошко** упоминал о гигантских заработках заключенных, назвав суммы в 16,5 тысячи на «химии» и 700–800 рублей в колониях. Интересуюсь: *«Есть у вас подобные «стахановцы»?»*

*«Нет. Многие получают приличные для осужденных деньги, но вообще суммы начинаются от 15 рублей»*, – сражает откровенностью Андрей Сергеевич.

*«15 рублей?! Да этого даже на сигареты не хватит. Кто же получает такие крохи?»* – *«Работающие на участке по разбору и сортировке металлического лома и кабельных изделий»*, – вступает в разговор директор предприятия "ИК №5" **Николай Михнюк**. Именно он стал гидом по промзоне, рассказав много любопытного.

Оказывается, в «Волчьих норах» расположен филиал «Доманово» РУП «Исправительная колония №5». И работает он очень прибыльно: чистый доход Михнюк озвучивает в миллиардах за полгода («в старых деньгах», как пел Владимир Высоцкий). Может, потому, что на зарплаты не особо тратятся?

*«Не стоит думать, что 15 рублей получают те, кто трудится на участках лесопиления, деревообработки или швейном. Там зарплаты на порядок выше. А поразившие вас суммы – на участке низкоквалифицированного труда. Зарплата сдельная: кто хочет – работает на совесть, иные довольствуются 15 рублями*, – рассказывает Николай Иванович. – *Филиал образовался в 2013 году, ранее были мастерские. Потом построили один цех, другой, росла загрузка, прибыль. В швейном цеху шьем спецодежду, постельное белье. Изготавливаем бетонные конструкции для заборов. Но основа – деревообработка»*, – расставляет акценты Михнюк.

В колонии создан замкнутый цикл: есть свой распиловочный участок (куплены четыре современные циркулярные пилы), две сушильные камеры по 50 кубических метров, а в цехах деревообработки пиломатериалы превращаются в качественную мебель. То, что не годится для изготовления столов, стульев и иных предметов обихода, превращается в строительные поддоны, а отходы – в дрова для котельной.

*«Наше предприятие в разных тендерах участвует. Начали мебель из массива изготавливать: в месяц можем фуру качественного продукта сделать. Недаром же поставляем ее даже во Францию»*, – с гордостью говорит начальник РУП «ИК №5».

Действительно: работа кипит, на производстве заняты сотни человек, все в спецовках с иголочки, и, похоже, дело свое они знают. В цехах удивительная чистота. Трудно сказать, готовились к нашему визиту или же заключенные в новенькой спецодежде постоянно соблюдают идеальный порядок.

Каков же график? *«Работают в две смены – начало в 7.30 и 14.30. По списку 848 человек. Почему не все из тысячи? Так есть пенсионеры, инвалиды…»* – помогает с цифрами один из подчиненных Михнюка.

## Два на тысячу…

Возвращаясь из промышленной зоны в жилую (опять через лязг электрозамка), удалось взять эксклюзивное интервью у Андрея Квашевича, поначалу не хотевшего говорить с *«оппозиционной газетой»*, но затем изменившего свое мнение и позволившего задать несколько *«провокационных вопросов»*.

**– Сколько человек из тысячи покинуло колонию за год по УДО?**

– Ни одного. Двое вышли по замене наказания более мягким. Меньше месяца назад.

**– Заключенные жаловались, что телефонов не хватает. Их стало больше?**

– Нет. Брестский филиал «Белтелекома» ведет сюда оптоволоконную линию и обещает через месяц-два обеспечить нас качественной связью. Тогда появятся дополнительные телефоны.

**– Свидания не сократили с трех суток до однодневных?**

– Нет: свободных комнат не бывает. Их 13, и они всегда заняты.

**– Наверняка не всем даете по трое суток. Сколько человек имеют право на длительные свидания?**

– Все. Но за правонарушения они могут подвергаться лишению краткосрочного или длительного свидания. И не всем подписываются длительные свидания: ведь в законодательстве прописано от одних суток до трех. Нарушителям режима содержания можем дать одни сутки – со вторника на среду, а положительный осужденный получит трое – с пятницы до понедельника.

**– А нормы, периодичность передач урезаны?**

– Ничего подобного. Нарушителей можем лишить права на получение посылки или передачи, так же как и свидания. Все остальные получают их в установленном порядке. И это не связано со статьей 328.

**– Есть лимит на дистанционное обучение?**

– Сейчас учатся 20 первых – но не скажу, что было 40 желающих. Думаю, в дальнейшем будем увеличивать количество, хотя для заключенных это финансово накладно. Все желающие пошли учиться. Но ведь нужно и критерии соблюдать – чтобы образование соответствовало. Мы никому не запрещаем учиться.

**– После посещения Ириной Дорофеевой «ресторана строгого режима» Николай Статкевич рассказал, что основная еда заключенного могилевской колонии – это каши и бигус. За три года и четыре месяца он ни разу не видел котлет, жаркого, компота и риса. А у вас?**

– Можете посмотреть журнал – меню хоть на год назад, хоть на год вперед. Осужденные сами этот журнал заполняют. Мы не хотим обмануть кого-то и показать, что сегодня было лучше, когда вчера – хуже. И осужденные же не будут врать родителям: после свиданий те в соцсетях пересказывают все услышанное. Наша столовая одна из лучших в системе ДИН МВД Беларуси. Хлеб так точно лучше магазинного.

**– Парню из карантина дали 10 лет за 10 граммов…**

– Это кажется, что 10 граммов – немного. Одно дело марихуана, а другое – синтетический наркотик, из которого выйдет тысяча доз. Поэтому законодатель это предусмотрел. Суд решает степень вины, не мы.

## Нары, нары, нары…

Так-то оно так, но заключенных меньше не становится, и сейчас их (если сложить цифры по возрастному составу) – более тысячи! Напомню, что даже по увеличенным нормативам в «Волчьих норах» должно быть до 800 человек.

Вот расклад по срокам, на которые осуждены находящиеся здесь люди: до 10 лет заключения – порядка 600 осужденных, от 10 до 15 лет – 290, от 15 до 20 – 17 человек. Статистика не стыкуется и с другими цифрами, приведенными Квашевичем. Отмечу, что три четверти заключенных сидят за спайсы.

Теперь о самом главном – условиях проживания осужденных. Без преувеличения, они ужасны. Все живут в одном здании, поделенном на четыре сектора, в которых по два отряда. *«Здесь у вас краской пахнет»,* – говорю я на лестнице провожатому, заходя в здание и вспоминая историю про гастроли великого Ива Монтана.

В 1956-м сын итальянского еврея-коммуниста побывал с Советском Союзе. На родину из-за «железного занавеса» он вывез не только обширную «коллекцию» женского белья советского производства, которую презентовал затем в Париже, но и массу впечатлений. По словам певца, одним из главных стал запах свежей краски, сопровождавший его во всех городах (а он объехал с концертами десяток советских мегаполисов).

Но запах слабый и в нос не шибает. Куда поразительнее увиденное на втором этаже: в комнатах предельно аскетичная обстановка, кроватей напихано сверх всякой меры. А ведь именно здесь заключенные проводят большую часть времени.

В одном из «кубриков» аж 26 кроватей! Почти все заняты: на двери список находящейся в помещении мебели открывается строкой «табуретки – 24 шт.». Значит, в этом помещении существует – не живет – 24 человека! Проходы между двухъярусными кроватями шириной в тумбочку – сантиметров 60! Становится понятно, что со второго яруса заключенные не могут слезть одновременно, потому как будут мешать друг другу! Какое тут соблюдение санитарных, а уж тем более противопожарных, норм!

Никаких цветов или картин я не углядел. *«А ведь раньше в помещениях были столы. Куда делись?»* – интересуюсь у заключенного. *«Вынесли в ленинскую комнату,* – используя привычную советскую формулировку, отвечает за него милиционер. И поправляется: – *Комнату воспитательной работы. Лагерь-то переполнен, ставить некуда»*.

*«Почти везде по 20 и больше человек. Редко есть свободные места: этапы-то идут и идут»*, – поясняет ситуацию один из осужденных. *«Кровати и табуретки у каждого свои, тумбочка – одна на двоих»*, – добавляет один из сотрудников в камуфляже.

И это нормально? Тумбочка – одна на двоих, 20 с лишним человек в помещении, где не продохнуть…

Да тут даже не стоит и штрафной изолятор посещать (который нам не показали), в жилой зоне созданы такие условия, что любому «сидельцу» из Швеции или Германии они покажутся карцером!

Ведь та же баня – раз в неделю. И душа нет, но есть умывальники и ножные ванны. Правда, их количество, напомню, рассчитано по нормам. А норма при возведении здания была определена четко: максимум 550 человек. Максимум! То есть нынешнее число заключенных превосходит предельно допустимое в два раза.

Подводя итог под общим впечатлением от «специализированной» колонии для наркоманов, могу сказать, что многие ужасы, рассказываемые о ней, не подтвердились. Но то, что за год ее покинули всего два человека из тысячи (и не по УДО), говорит о многом.

Покидая зону, я задал молоденькому заключенному вопрос: *«Как с вами обращаются надзиратели? Не наказывают попусту, чтобы сделать нарушителем и лишить возможности выйти отсюда раньше?»* Парнишка, глянув через мое плечо на надзирателя, уткнулся глазами в пол и выдавил: *«Нормально»*.

**Олег ШЕПЕЛЮК.**

*(Продолжение в следующих номерах.)*

